Віктар ЛОЎГАЧ

# БАЙКІ Ў ПРОЗЕ

## За што цэняць



Заяц заўжды выхваляўся сваімі доўгімі вушамі.

— Вось узяць, напрыклад, карову. Вялікая, а вушы — як мой хвост. І навошта яе толькі людзі трымаюць?

А таго Заяц не ведаў, што Карову не за вушы цэняць, бо якія б яны доўгія ні былі, малака з іх не надоіш.

## Хто што можа



— Я ўсё магу! — ганарліва казаў Агонь. — Жытло спаліць, лес знішчыць, усё жывое загубіць...

Вада доўга моўчкі слухала яго, а потым хлынула ў полымя і ўраз затушыла яго.

## Крот



— А па мне, ці ёсць сонца, ці няма яго — усё роўна, — гаварыў Крот, бо ўсё жыццё жыў у нары і ніколі не бачыў сонца. Вядома, што ён мог сказаць пра яго?..

## Пахваліўся



Мухамор, апрануўшы яркі чырвоны капялюш у белыя крапінкі, у каторы раз хваліўся Масляку:

— Я — першы грыб у лесе! За вярсту мяне бачна. А цябе хоць граблямі з травы выграбай! Пакуль адшукаеш — гадзіну страціш.

Але ж людзі шукаюць, бо смачны Масляк, а Мухамору толькі нагамі выспяка даюць.

## Дзяцел і Сарока



— І за што цябе лясныя ахоўнікі шануюць? — бубнела Сарока. — Адно ведаеш, што сядзець на дрэве ды барабаніць дзюбай. А я то тут, то там. Лятаю, трашчу, навіны разношу. І ніякай павагі!..

Між тым, Дзяцел штодзень лечыць дрэвы. А ад Сарокі, колькі ні стракачы, колькі ні балбачы — ніякай карысці.

## Замок



— Мне і толькі мне даверылі такое багацце! — задзірыста гарлапаніў Замок. — Гэта ж колькі гадоў нязменна вартую.

Вісеў той Замок на пустым будынку, гаспадар якога назаўсёды пераехаў на новае месца, а Замок зняць забыўся.

## Ружжо



Яно з пагардай глядзела на патроны:

— Што вы? Дробязь. А я — гонар гаспадара. Колькі трафеяў здабыла яму.

І пра адно забывала: без патронаў, без стрэлу не ўзяць трафеяў, якім бы шыкоўным не было ружжо.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Алега ПАПОВА.




**Мікола МАЛЯЎКА**



# ЗМЕЙ

Змей,
Як чалавек,
Пераходзіць з веку ў век.

Малады быў
І дудзеў Адам:
– Я цябе
Нікому не аддам!



Ева пела
З мілым у ладу:
– Я сама
Нікуды не пайду!..

Слухаў іх, людзей,
І ўсміхаўся ў садзе
Змей.



Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.





Малюнкі Аркадзя ГУРСКАГА.




*У наш час машына – гэта не проста сродак перамяшчэння. Для многіх людзей яна стала другім домам, а яшчэ – найлепшым сябрам. Аўтамабілю даецца імя ці ласкавая мянушка. Можна сустрэць вадзіцеляў, якія называюць сваю машыну Ластаўкай, Сонейкам, Чорнай маланкай або неяк больш мудрагеліста і незвычайна – Тушкан, Буцэфал ці якінебудзь Шалёны Табурэт. Аўтамабіль паступова становіцца не бяздушным механізмам, а чымсьці жывым, што мае свой настрой і характар. І яго ўладальнік робіць усё магчымае, каб парадаваць свайго «любімца»: то запчастку якую-небудзь памяняе, то ў салон абноўку купіць, то цюнінг навядзе.*

*Хочаце верце – хочаце не, а машыны ўсё гэта адчуваюць. І – размаўляюць паміж сабой. У іх нават ёсць сваё «машыннае радыё». Мы, звычайныя людзі, зразумела, чуць яго не можам. Але адну перадачу нам усё ж такі атрымалася падслухаць...*

– Добры дзень, паважаныя слухачы. Мы рады, што вы застаецеся з намі на адной хвалі. Вас вітае радыё «Руль». Як заўсёды вечарам у пятніцу, у нашым эфіры праграма «Аўтамабільныя размовы». Самыя надзённыя пытанні, самыя аўтарытэтныя аўтамабілі, самыя дакладныя і правераныя факты, самыя жывыя спрэчкі. Усё гэта праз некалькі хвілін. З павагай да вас, «Фольксваген Пасат» Жыўчык, – бойка пратарабаніў вядучы праграмы, і загучала песня.

Калі музыка скончылася, зноў пачуўся голас Жыўчыка:

– Сёння мы пагаворым пра крадзяжы аўтамабіляў у Беларусі. Да нас завіталі ў госці эксперты ў гэтым пытанні – «Аўдзі А6» Чарныш з Магілёва і «Опель Амега» Рыбка з Мінска, самы вопытны з прысутных – «ВАЗ 2101» Бяляш і наша пастаянная госця «Фіат Брава» Маруся.

Калі быў аб'яўлены апошні ўдзельнік перадачы, машыны па чарзе пабібікалі і такім чынам павіталіся са слухачамі.

– Дазвольце пачаць з лічбаў, – першай пачала праграму «Опель Амега» Рыбка. – За першае паўгоддзе 2013 года ў Беларусі было здзейснена 693 крадзяжы аўтамабіляў. У большасці выпадкаў чужыя машыны сабе прысвойвалі нецвярозыя людзі без якой-небудзь папярэдняй падрыхтоўкі. Глынуўшы лішку, ім карцела нейкіх прыгод, вось і «забаўляліся» такім чынам. Вельмі часта, накатаўшыся, злачынцы пакідалі машыны абы-дзе. Вы толькі ўявіце, што адчувалі нашы механічныя браты і сёстры, калі зусім чужы чалавек садзіўся ў салон і ехаў невядома куды. Гэта ж амаль згвалтаванне! Прабачце, канешне, маю празмерную эмацыйнасць, але як уяўлю сабе, што мяне могуць разлучыць з гаспадаром, дык адразу матор пачынае барахліць.

– Мы ўсё разумеем! І цалкам вас падтрымліваем. Працягвайце, калі ласка, – прыязна адгукнуўся Жыўчык.

– Што датычыцца прыхільнасцяў злачынцаў, то першае месца займаюць аўтамабілі «са стажам» 15-20 гадоў. Напрыклад, машыны маркі «ВАЗ» складаюць крыху больш за трыццаць працэнтаў ад агульнай колькасці крадзяжоў, у тройку «лідараў» уваходзяць яшчэ «Фольксвагены» і «Аўдзі». І ўсё з-за тэхнічных прычын: гэтыя аўтамабілі прасцей за ўсё ўзламаць, можна нават з дапамогай простай адвёрткі, – працягвала расказваць Рыбка.

– Так, ёсць такі «грашок» сярод мадэляў маёй маркі, – падаў голас «ВАЗ 2101» Бяляш. – Але калі вадзіцель сочыць за сваім транспартным сродкам, то ніякі крадзеж яму не страшны. З мяне, напрыклад, мой гаспадар пылінкі здзімае, паставіў замкі, якія ніякому злодзею з адвёрткай не па зубах. Я не кажу ўжо пра розныя ахоўныя сігналізацыі. Калі б усе гаспадары так адносіліся да сваёй чатырохколавай маёмасці, то колькасць падобных правапарушэнняў скарацілася б як бачыш.

– Цалкам з вамі згодна, мой сябра! – уступіла ў размову «Фіат Брава» Маруся. – Вадзіцелі часта спадзяюцца на «а можа ды няхай», а потым крыўдзяцца чамусьці на нас. Маўляў, чаму ты такая няўдачлівая? Усё проста: трэба было лепш даглядаць нас!

У адказ у эфіры прагучалі гудкі ўсіх удзельнікаў.

– Як прыемна, калі мае госці згаджаюцца адзін з адным! Але я прапаную паслухаць яшчэ аднаго нашага калегу – «Аўдзі А6» Чарныша, – узяў сваё слова вядучы.

– Вялікі дзякуй, што дазволілі мне выказацца. У Магілёве, адкуль я родам, за першае паўгоддзе было здзейснена 19 крадзяжоў і 56 угонаў машын. Трэба адзначыць, што колькасць такіх злачынстваў з кожным годам памяншаецца. Напрыклад, у 2007 годзе было зафіксіравана 312 крадзяжоў і ўгонаў, а ў 2012 – ужо 122. Большасць злодзеяў – гэта маладыя хлопцы, раней асуджаныя і, як ужо казала Рыбка, нецвярозыя. Але здараецца, што ўгоншчыкамі становяцца і жанчыны, часта таксама пад уздзеяннем гарэлкі, – адчытаўся Чарныш.

– Вядома, ахвярамі злодзеяў становяцца і машыны, якіх гаспадары вельмі любяць, як, напрыклад, нашага госця Бяляша. Таму мне вельмі хацелася б, каб ліхадзеі атрымлівалі больш сур'ёзнае пакаранне, чым цяпер. Мне здаецца, што штраф, ці папраўчыя работы да двух гадоў, ці арышт на тэрмін да шасці месяцаў, ці абмежаванне або пазбаўленне волі да трох гадоў за крадзеж нашага брата ці сястры – гэта мала, – выказалася «Фіат Брава» Маруся.

– Ведаеце, а гэта вельмі добрая тэма для наступнай перадачы. Тым больш, што адведзены нам час заканчваецца. Прапаную працягнуць нашу размову роўна праз тыдзень. Вы згодны? – спытаў Жыўчык.

У адказ зноў прагучалі звонкія гудкі.

– Вось і добра! А нам час развітвацца, паважаныя слухачы. Заставайцеся з намі на адной хвалі. Сустрэнемся ў наступную пятніцу ў гэты ж час. Да пабачэння.

**Радыё слухала Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

**Галіна СУТУЛА**




# «Сваяˮ доля

У Мікодуся на канцы горада былі соткі. (Дзеці хоць і мелі ўласныя сем'і, але па-ранейшаму прыязджалі да бацькоў па харчы.) Праўда, які там агарод? Лапік — як добрай бабе сесці, але зямелька чорная, урадлівая. Бульба расла нібы на дражджах...

— Недзе ў ліпені ўжо са свежай будзем, — радаваўся Мікодусь, клыпаючы на соткі.

Падышоў бліжэй і... аслупянеў. Добрую чвэртку ягонай бульбы нехта ўжо вылупіў. Вялізнае цыбатае каліўе з бульбінкамі-недаросткамі валялася абы-як: відаць, «госці» спяшаліся.

Мікодусь страціў сон і апетыт. Усё думаў, як тых злодзеяў за руку ўхапіць. Маладога спрыту і моцы ўжо не было, а з кійком не надта паваюеш.

— І ўсё ж калі не злаўлю, хоць напужаю, — вырашыў ён і ў наступную ноч засеў на мяжы ў «засадзе».

Было ўжо за поўнач, калі каля сотак спынілася машына, з якой выйшлі трое дужых дзецюкоў, узброеных рыдлёўкамі і мяшкамі. Без лішніх слоў яны пачалі капаць бульбу. У Мікодуся аж сэрца зайшлося ад крыўды і адчаю.

«Дзе ж ты такіх напужаеш? У парашок сатруць, — цюкала думка. — Можа, у іх каля кожнай нагі па лому? Цюкнуць — і ўсё, лягу, як тое каліва...»

Толькі сядзець і глядзець на такі глум Мікодусь не мог. Не вытрываў. Сам не свой, выпаўз з «засады» і, як лунацік, наблізіўся да хлопцаў.

На яго спачатку не звярнулі ўвагі. Мужчына застыў, нібы слуп і, не адрываючыся, глядзеў на пузатыя мяхі.

Нарэшце хлопцы перакінуліся некалькімі словамі і адзін з іх запытаў:

— Што, дзед, чацвёртым хочаш быць?

Мікодусь, нічога не разумеючы, кіўнуў. Хлопец прынёс яшчэ адну рыдлёўку, кінуў мех:

— На, старайся. Колькі накапаеш — тое і тваё.

Нарэшце да Мікодуся дайшло. Адкуль сілачкі ўзяліся? Так рупіўся, так пацеў, аж дзецюкі рагаталі:

— Во, дзед дае! Давай, давай, націскай на газ, старая рада будзе.

Праз гадзіну ўвесь агарод выкапалі. Дзецюкі зграблі свае мяшкі, ухапілі і тры Мікодусевы:

— Паехалі, дзед. Дадому падкінем.

Мікодусь з шыкам падкаціў да хаты. Хлопцы выкінулі мяшкі і развіталіся:

— Ты нас, дзед, не бачыў, мы цябе — таксама, а то ведаеш...

Дзед успомніў вядомы амерыканскі баявік і спешна запэўніў:

— Ведаем, ведаем, вучоныя. Дзякуй за дапамогу.

Машына, ціха шапочучы коламі, ад'ехала. Мікодусь апусціўся на ганак, прыкідваючы, як без крыўды раздзяліць «сваю» долю на вялікае сямейства.



*г. Глыбокае.*

## Ажаніцца — не журыцца






Малюнкі Алега ПАПОВА.




## Камень крыміналу

***Мінск.*** Адны людзі ўсё жыццё грызуць граніт навукі, каб узбагаціць свой унутраны свет. Другія ж «грызуць» гэты камень, каб узбагаціць свае кішэні.

Напрыклад, адна сталічная прыватная фірма, якая займалася пастаўкай, вытворчасцю і продажам граніту праз лжэпрадпрыемствы, «нагрызла» каменю аж на 10 мільярдаў рублёў і — не выплаціла 2,7 мільярда рублёў падаткаў.

Дырэктара прыватнай кампаніі і яго намесніка затрымалі, узбудзілі крымінальную справу. Існуе верагоднасць таго, што цяпер ім давядзецца «грызці» турэмныя краты.

## Курыць — свабодзе шкодзіць

***Гродна.*** Курэнне не толькі шкодзіць здароўю, б'е па кішэні, а яшчэ можа і пазбавіць свабоды.

У гэтым пераканаўся мясцовы прадпрымальнік, які займаўся аптовым і рознічным продажам тытунёвых вырабаў. Спрабуючы як мага больш зарабіць на гэтым шкодным тавары, ён махляваў з дакументамі, заніжаючы выручку. У прыватнасці, так адбылося ў маі — снежні 2011 года (прадпрымальнік застаўся павінен дзяржаве 1,1 мільярда рублёў падаткаў і плацяжоў). А затым, падчас праверкі, каб зменшыць даходы, прадставіў «левыя» дакументы.

Зараз гэты жыхар Гродна можа перайначыць народнае выслоўе на свой лад: «Курыць — свабодзе шкодзіць». Заведзена крымінальная справа.

## «Кавуновыя» вітаміны

***Мінск.*** Смачны, сакавіты кавун ці дыня дораць нам неверагодную колькасць вітамінаў. Але гэтыя бахчавыя плады могуць «падарыць» і... штраф. Як атрымалася ў выпадку з замежнымі грамадзянамі, якія гандлявалі імі на адным сталічным рынку, не маючы неабходных дакументаў. Таму супрацоўнікі фінансавай міліцыі і канфіскавалі ў іх дзве тоны «нелегальных» кавуноў і дынь.

Цяпер прадпрымальнікам пагражае штраф да ста базавых велічынь. Вельмі дарагімі аказаліся для іх «кавуновыя» вітаміны.




***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***




Мары пра шчасце — бязмежныя, але шчасце мае мяжу.

Царскую карону ды на варону.

Хуткая маланка, але б'е куды патрапіць.

Блукаюць думкі — блукаюць ногі.

Няўсходжае насенне не баіцца засухі.

Адважны пакарыў мора, нясмелы спыніўся перад лужынай.



У цябе ёсць адзежа прарока, але дзе ўзяць галаву?

Зоркае сэрца, якое разгледзела хлусню.

Час бясконцы, але яго заўсёды не хапае.

Не кожнаму любы чужой славы трубы.

У гарлач мора не схаваеш.

Хто не ведае стомы, той не ведае працы.



Сонца ў камору не ўваходзіць.

Мілы вароне голас вараняці.

Не для ціхоні жвавыя коні.

І жабрак шчасце шукае.

Залатое цярпенне даражэй за золата.

І вялікая крыга растае.

Магутнае дрэва, але і піла зубастая.



Няма толку, калі нітка вядзе іголку.

Суседская зайздрасць бяссонная.

Занадта палымянае каханне хутка ператвараецца ў попел.

**Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*





Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.






Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Як лапцем па вадзе...

«І апошняе: пішыце так, каб у матэрыяле быў пачатак і канец».



«Каток на стадыёне неабходна пачысціць ад снегу, паліваць рэгулярна, добра было б і заасфальтаваць».



*(З выступленняў.)*

«Гатовы прыкласці ўсе сілы ў любой справе, абы нічога не рабіць».

*(З заявы.)*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

# ЗБІТЫЯ ІСЦІНЫ

☺ Куранят па восені лічыць той, хто ўсё лета лавіў варон.

Дурню не абавязкова рабіць глупствы. Дастаткова пра іх гаварыць.

☺ Шматгадовыя доследы дацэнта Пятрова могуць даць буйны эканамічны эфект, калі не спяшацца з іх укараненнем.

Калі аўтобус не ходзіць, то пасажыры бегаюць.

☺ Каханне – гэта палёт у аблоках. Таму ўвесь час цягне на зямлю, каб паесці і выспацца.



«Паглядзім, хто з нас сапраўдны», – падумаў бюракрат, ідучы на прыём да калегі.

☺ Меў залаты характар, дзякуючы жалезнай вытрымцы.

Досвед вымяраецца не толькі колькасцю перамог, але і наяўнасцю фінгалаў.

☺ Вучыцца на ўласных памылках – горкі вопыт, на чужых – хітрая практыка.




Банальная ісціна: калі ты хочаш даць добрую параду свайму начальніку, падумай, як ты будзеш яе выконваць.

☺ Капаючы я́му блізкаму, пастарайся, каб твая праца не была дарэмнай.

*г. Горкі.*




*Сапраўдную славу пісьменніку Андрэю МРЫЮ (Андрэю Антонавічу Шашалевічу) (1893 – 1943) прынёс сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя», надрукаваны ў 1929 годзе ў часопісе «Узвышша». У гэтым адметным творы таленавіта і трапна высмейваюцца такія чалавечыя заганы, як прыстасавальніцтва, фальш, пустазвонства, паказуха, шарлатанства... «Мяне натхняла думка, што кніга пра Самасуя будзе адною з вясёлых, жыццярадасных кніг, што выкрываюць прайдзісветаў, жулікаў, дармаедаў і паскуднікаў», – адзначаў сам пісьменнік пасля выхаду рамана ў свет. І ніколькі не памыліўся.*

*Сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння выдатнага пісьменніка, сатырыка і гумарыста Андрэя Мрыя, а радкі, напісаныя ім больш за восем дзясяткаў гадоў таму, застаюцца актуальнымі і сёння...*

**Андрэй МРЫЙ**




...Аднойчы, калі цвілі ліпы і ў паветры духотна п'яным і гарачым плылі струмені ліпнёвага паху і квітнеючых сенажацяў, я стаяў на мосце і глядзеў, як паціху бегла вада невялічкай рачулкі. Мост быў пад горкаю, каля могілак за мястэчкам. Лог ля рэчкі бялеў увесь рамонамі.

Цяжка было на сэрцы. Газетная кампанія, узнятая супраць мяне Лінам, выклікала ультрафіялетавы настрой. Я глядзеў на белыя, бязвінныя рамоны і думаў:

Ой, рамон-зелле,
рамон-зелле кудравае!
Скажы мне, рамон-зелле,
Айдзе мая доля ліхая
Бітым шляхам валачэцца?

Ніякага выразнага адказу ад расліны я не атрымаў. Дый што мне параіла б няшчасная кветка, якая сама, мусіць, думала, як праз 2 ці 3 дні гострае джала касы дзікунскі насмяецца з прыгажосці прыроды ў імя харчова-утылітарных запатрабаванняў?

Доўга думаў я над рэчкаю (да рэвалюцыі яе звалі Сіняй рэчкай), а калі дамоў ішоў, у галаве маёй быў цвёрда здуманы і добра сканструяваны план. Як відаць, мяне не так лёгка зламаць. Жыццё ў мяне пырскае з усіх каморак арганізму. Як відаць, бліскучае, гарачае сонца, сіняе бясхмарнае неба і лёгкі, лагодны ветрык супольна апрацавалі маю думку ў пажаданым напрамку і стварылі мой план. Ад песімізму не было і следу.

Змест плана: праз 3 ці 5 дзён я афіцыйна падаю заяву аб вызначэнні мне месячнага тэрміну для адпачынку. Дамоў да бацькі не паеду. Адпачынак правяду тут, у Шапялёўцы!

Кожны мае рацыю прызнаць гэты план дзівацкім. Але калі лагічна да канца прадумаць усю мясцовую сітуацыю і разгледзець яе пад кутом барацьбы за вытрыманую лінію, дык больш разумнай пастановы нельга вынесці.

Я прызнаю, што ў першы перыяд свае шыпялёўскае чыннасці з майго боку шмат было зроблена палітычна няверных крокаў. Неабходна хутчэй выраўнаць лінію і зноў заваяваць страчаны аўтарытэт. Вось асноўны стымул, які рухаў мною, каб застацца ў Шапялёўцы! З другога боку, усе зробленыя раней памылкі выплывалі з таго, што я не ведаў усіх умоў працы і на новай пасадзе з'явіўся, як Піліп з канапель. Праўда, Торба раіць:

– Трэба ўсюды торкацца, як Піліп з канапель! У гэтым сакрэт перамогі ў жыцці!

Але, на мой погляд, жыццё поўнасцю яшчэ не падкрэсліла правільнасць прыведзенай думкі. Мамон цалкам падтрымаў мяне:

– Табе, Самсон, патрэбна дэтальна пазнаёміцца з чатырма формамі савецкай працы наогул: з арганізацыйнай працай, вытворчай працай, тарыфна-эканамічнай і культпрацай. У працэсе штодзённай працы не лёгка гэтага дасягнуць. Заўсёды ў цябе ёсць бягучая праца, якую нельга ні прадбачыць, ні акрэсліць, ні падлічыць!

Я сказаў:

– Мне трэба, дружа Мамоша, супакойна праверыць і тэарэтычна ўдасканаліць асноўныя ўстаноўкі працы...

– А для гэтага трэба, як ты сказаў раней, тэрмінова ўзяцца за індывідуальнае вывучэнне кожнага шапялёўскага працаўніка ў мэтах належнай арганізацыі раённай культпрацы і планавага ахопу ёю розных пластоў насялення! – паспяшыў сказаць Мамон.

– Так, так! Толькі тут, наглядаючы, як трэці элемент жыццё розных савецкіх устаноў, я адшукаю цэлы

Працяг на стар. 8.

Працяг. Пачатак на стар. 7.

шэраг новых форм, рычагоў і метадаў карыснай і грамадскай працы наогул. Цяпер я добра бачу, што мы ў сваёй культпрацы часта ўжывалі несучасныя метады, і гэта выклікала такое непажаданае абвастрэнне суадносін!..

Праз 5 дзён я свой план поўнасцю правёў у жыццё. Мне далі месячны адпачынак. Адначасна з гэтым навальнічнае паветра, якое згусцілася над маёю галавою, нібы само сабой разрэдзілася. Неяк раптам усё ўлагодзілася.

Я зрабіў яшчэ адзін крок, які з'явіўся пераломным момантам. Я падаў заяву ў райком аб сваім шчырым жаданні працаваць у шэрагах партыі. Сакратар райкома т. Андросаў здзіўлена зірнуў на мяне:

— Гэта справа добрая, і, праўду кажучы, загадчык культаддзела павінен быць партыйным. Толькі не чакаў я... Нявытрыманы ты працаўнік. Часам такой лухты наробіш, што партыйцу ніякім чынам нельга даравацъ...

— Я выраўнаю сваю лінію... Я хачу быць задаволеным вашым кіраўніцтвам на ўсе 100 проц.! — сказаў я.

— Добра, добра! Пабачым. Трэба, каб два камуністыя са стажам далі заручку...

Сакратар правёў са мною доўгую гутарку, падрабязна дапытваючы маё крэда і маю куррыкулю віту. На ўсе пытанні я даў падрыхтаваныя адказы. Пытанне ўскладнялася толькі тым, дзе я знайду вытрыманых даўгалетніх камуністых, якія ведалі б мяне з добрага боку. Усе ж думаюць: я — паветраны чалавек, за мяне цяжка ручаць. Пасля доўгіх шуканняў у памяці я напісаў ліст камбату т. Арахвейчыку, з якім мы калісьці здалі белым 4 кулямёты, а самі ледзь-ледзь уцалэхалі. У той час як я, так і ён з вялікай асцярогай ваявалі за сацыялістычную бацькаўшчыну і з наківу разумелі адзін аднаго!

А цяпер як?.. Кажуць — Арахвейчык зусім змяніўся.

Так яно і ёсць! Праз тры дні прыйшоў ад яго ліст, які для мяне быў уважыстай маральнай даўбнёй...

«Тое, што ты надумаў, лічу найвялікшым сусветным глупствам. Партыя — не дзеўка, якую можна спакушаць бяскарна. Зарубі сабе гэта на тваім кірпатым носе!.. Які ты будзеш камуністы? Толькі смяшыць людзей будзеш! Кажучы фігуральна, цябе трэба каленам пад мяккія часткі штурхаць да сацыялізму!.. Ты, бачу, зусім не змяніўся і добраму не навучыўся. А трэба, трэба! Бо ў людзей дурні здыхаюць, а ў нас як з вады вылязаюць!..»

Гэты абразлівы ліст на 100 проц. атруціў мне два дні. Зноў у галаве заварушыліся здрадныя думкі. Зноў паўстала перспектыва завярнуць аглоблі фартуны на бацькавы гоні!

Два дні поўнай дэмаралізацыі! Трэба было на што-небудзь адважыцца!

На трэці дзень я схапіў ліст здрадніка Арахвейчыка, перачытаў 3 1/2 разы і ў мэтлахі разнёс яго! Тады адразу лягчэй зрабілася ўнутры, быццам ліманаду выпіў. Нават засмяяўся і выйшаў на вуліцу. Я кіраваўся ў райком, каб узяць назад сваю заяву і сказаць:

— Т. Андросаў, я лічу сябе малакаштоўным элементам у шэрагах партыі і не стаю на вышыні камуністычнай свядомасці!

На вуліцы я пачуў вельмі цікавую размову дзвюх дзяўчынак, ішоўшых спераду за мяне. Адна з іх была з чырвоным гальштукам, чысценька апранута і гаварыла другой, у старэнькай, заношанай вопратцы:

— Ведаеш, Гэнька, я з табою больш дружыць не буду! Ты беспартыйная, а я партыйная...

— Ай, Ліда, не кажы так, а то я заплачу...

— Цяпер мне можна толькі з партыйнымі гуляць, а калі буду з табой, дык магу залезці ў балота і абрасці мяшчанствам!..

Другая дзяўчынка сумна павесіла галоўку...

Размова дзяўчынак падкрэсліла маю думку:

«Займаючы такую адказную пасаду, як мая, трэба быць партыйным. Няёмка быць беспартыйным!»

І прыняў цвёрдую пастанову:

— Няхай Лін укусіць сябе за вуха, а я буду ў партыі. Тады ён загаворыць са мною іншым тонам, будзе поўзаць, лісліва глядзець у мае суровыя вочы, будзе лавіць на ляту кожнае маё слова! Тады і рыбачка Крэйна зменіць свае халодныя адносіны да мяне. Я буду ў яе вачах разумным, прыгожым і цікавым! Лін не будзе больш пагражаць мне: я цябе ў таганрог скручу за смерць сваёй Мілэдзькі. Не ён мяне, я скручу яго! Тады рафінадная пыса не будзе ўжо ўсім і кожнаму даводзіць, што я бытавая з'ява, што ў кожным раёне БССР ёсць свой Самасуй.

З таго дню я цвёрда пачаў дамагацца партыйнай кандыдатуры, акуратна хадзіў на партыйныя сходы і праявіў вялікую актыўнасць. На сходах я заўсёды трымаў блакнот у руках і пасля кожнага даклада вусна задаваў вялікую колькасць пытанняў. Хутка я пачаў адчуваць, што мая вага расце, і трэба толькі замацаваць спрыяючы стан рэчаў...

*Менск, 31/VII-29.*




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## *КАЛАМБУРЫ*

### Пчала



Працавітая пчала
Кветкі нюхаць пачала.
Раз ляціць, дзясяты, соты,
Каб напоўніць мёдам соты.
Вулей побач, за гарой,
А за мёд і рой — гарой.

### У школьным лагеры

Каб школьнікаў парадаваць,
Сняданак ім пара даваць.
А ім, малым, цікава:
Какава там ці кава?

### У лазні



Янка гаварыў Пятру:
— Спіну я табе патру.
Пары з водарам паддам —
Выйдзеш свежы, як Адам.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

*Мыш — жывёла, шлях якой усеяны жанчынамі, якія страцілі прытомнасць.*

*Сэмюэл Джонсан (англійскі паэт, крытык)*




Малюнкі Паўла ГАРАДЦОВА.

**Янусь МАЛЕЦ**

## Януселькі-карацелькі

*(З запісных кніжак гумарыста)*

• Калі з вамі ў кватэры жыве цешча, не варта купляць папугая, які ўмее гаварыць.



• Прадаецца аўтамабіль. Прабег усяго 100 кіламетраў. Адзіны недахоп: сапсаваны спідометр.

• Сабака, вядома, сябар чалавека. Але хіба з ім вып'еш і даведаешся, ці паважае ён цябе?



• Слесара-сантэхніка Марматухіна ўкусіў сабака, пасля чаго развучыўся брахаць і навучыўся бурчаць: «На-лі-вай!»

• Кожнаму парсюку — персанальную лужыну!



• Адна галава — добра, дзве — яшчэ лепш, а калі тры — можна і на пляшку скеміць.

• Бізнес — гэта пакручасты шлях ці на нары, ці на Канары...

# ЧАЛАВЕК СВЕТЛАЙ ДУШЫ



Ціхім, цёплым вечарам 10 верасня 2013 года памёр **Васіль Фаміч МАЕЎСКІ**, наш старэйшы вожыкавец. 1 студзеня 2014 года яму споўнілася б 90 гадоў. Васіль Фаміч пражыў няпростае, але цікавае і насычанае жыццё.

Нарадзіўся ў вёсцы Хізаў Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. (Адсюль і яго псеўданім Базыль Хізавец.) Вучыўся ў Задубскай сярэдняй школе, у Гомельскім педвучылішчы.

Аднавяскоўцы прадракалі яму кар'еру марака. Але грымнула Вялікая Айчынная вайна. Семнаццацігадовы юнак Васіль Маеўскі ўзброіўся аўтаматам і стаў беларускім партызанам. Цэліў у ворага і трапнай куляй, і вострым паэтычным словам. А першы яго верш «Маладыя штурманы» быў надрукаваны ў падпольнай газеце «Гомельская праўда» ў 1943 годзе.

Пасля вайны Васіль Фаміч скончыў партшколу пры ЦК КПБ, стаў журналістам, працаваў у рэдакцыях раённай і рэспубліканскай газет. Шмат ездзіў па рэспубліцы, пісаў артыкулы, нарысы, замалёўкі... Валодаючы бясспрэчным сатырычным дарам, пачаў пісаць фельетоны, байкі, вершы, мініяцюры... Першы зборнік пад назваю «На чыстую ваду» выйшаў у «Бібліятэцы «Вожыка» ў 1962 годзе. Потым былі кнігі «Розум у партфелі» (1969), «Багаты ўлоў» (1973), «Прамой наводкай» (1974), «Кавалі смерці» (1983).

Васіль Фаміч заходзіў у рэдакцыю «Вожыка», далікатна распытваў пра нашы справы, расказваў пра ранейшае рэдакцыйнае жыццё, пра ваеннае ліхалецце. Ён валодаў фенаменальнай памяццю, якой мы не пераставалі здзіўляцца: узгадваў назвы атрадаў, прозвішчы партызан і камандзіраў, назвы населеных пунктаў... (Неаднойчы мы прасілі яго занатаваць для нашчадкаў гэтыя ўнікальныя згадкі.) Пра сябе расказваць не любіў, ніколі ні на што не скардзіўся. Спытаем: «Як здароўе, Васіль Фаміч?», а ён у адказ толькі махне рукой: ат, маўляў, усё добра, знайшлі пра што пытацца.

З-за сваёй сціпласці і ў Саюз пісьменнікаў Беларусі ўступіў позна. І то, калі на гэтым настаялі тагачасныя і былыя вожыкаўцы: пісьменнікі Уладзімір Саламаха, Віктар Гардзей, Міхась Пазнякоў (далі свае рэкамендацыі), Павел Саковіч, Казімір Камейша.

«Вожыку» Васіль Фаміч аддаў больш за дзесяць гадоў свайго жыцця: у 1973–1984 гадах быў адказным сакратаром. Па ўспамінах, працавалася з ім лёгка, спакойна, добразычліва. Ён не любіў крыку, усе пытанні вырашаў прафесійна, без пустых слоў.

Гэта быў чалавек светлай душы, прынцыповы, сумленны, мудры, працавіты. Годна выгадаваў і выхаваў траіх дзяцей, чатырох унукаў і аднаго праўнука, якія вельмі любілі і шанавалі бацьку і дзеда.

Імя Васіля Фаміча Маеўскага назаўсёды застанецца ў нашай памяці, у гісторыі беларускай журналістыкі і беларускай літаратуры, у гісторыі «Вожыка».

## Вожыку пішуць...

**Дружа Вожык!** Яшчэ са школьных часоў, з урокаў па геаграфіі Беларусі, я цвёрда ведаў, што Віцебская вобласць знаходзіцца куды больш паўночней за Мінскую. А значыць, ягады там павінны паспяваць пазней, чым на Міншчыне. Такія законы прыроды...

Але ёсць у нашай краіне адна расліна, якая нахабна ігнаруе гэтыя законы. Я маю на ўвазе журавіны.

Напрыклад, у 2010 годзе «мінскія» журавіны не змаглі апярэдзіць «віцебскія» і паспелі з імі ў адзін і той жа час — адзінаццатага верасня. У 2011 годзе гэтыя ягады пачырванелі ў Віцебскай вобласці ўжо трэцяга верасня, а іх мінскія «калегі» чамусьці толькі дзясятага. У 2012 годзе разбежка ў адзін тыдзень на карысць больш паўночнай Віцебскай вобласці таксама захавалася: першага і восьмага верасня адпаведна.

Але сёлета ўвогуле адбылося неверагоднае! На Віцебшчыне журавіны дайшлі да патрэбнай кандыцыі ўжо 31 жніўня (што не дзіва, улічваючы кліматычныя асаблівасці гэтага сухога і спякотнага лета), а на Міншчыне — толькі 21 верасня. Разбежка паміж імі ўзрасла ўжо да трох тыдняў!.. Калі гэта тэндэнцыя будзе захоўвацца і надалей, то неўзабаве збіраць журавіны на Міншчыне давядзецца ледзьве не на пачатку снежня...

Можа, ты мне падкажаш, калючы дружа, хто займаецца вызначэннем тэрмінаў збору ягад на кожны год? І чаму гэтыя спецыялісты прымаюць такія, мякка кажучы, парадаксальныя рашэнні?

**Сямён МІХАЙЛАЎ,**
*Мінскі раён,*
*пас. Прывольны.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# ЁН ЖЫЎ «ВОЖЫКАМ»




*Пісьменнік Валянцін Уладзіміравіч БОЛТАЧ (1938 – 2007), вядомы чытачам пад псеўданімам Валянцін Блакіт, прыйшоў у «Вожык» на пасаду галоўнага рэдактара ў 1987 годзе і аддаў выданню 17 гадоў свайго жыцця. А да гэтага служыў у Савецкай Арміі, завочна вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце, паспытаў журналісцкага хлеба ў раённых газетах у Шчучыне і Воранаве, у абласной газеце «Гродзенская праўда», скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС у Маскве. Працаваў намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі Гродзенскага абкама КПБ, потым – загадчыкам сектара тэлебачання і радыё ЦК КПБ.*

*Між тым, першае сваё апавяданне В. Болтач надрукаваў менавіта ў часопісе «Вожык» у 1960 годзе. У «Бібліятэцы «Вожыка» выйшаў і зборнік гумарыстычных апавяданняў «Вынаходнік» (1974). Напісаў Валянцін Уладзіміравіч і шэраг «сур'ёзных» аповесцей.*

*Адзначаючы сёлета 75-годдзе з дня нараджэння пісьменніка Валянціна Уладзіміравіча Болтача, прыгадаем і некаторыя яго творы.*



**Валянцін БЛАКІТ**

## ІДУЦЬ ЭШАЛОНЫ

Іван Рыгоравіч Крупняк дасягнуў той граніцы, за якой натуральна ўзнікае, кажучы словамі паэта, пытанне: «Ну, а чым жа я жыў?» У такім узросце пішуцца мемуары і дысертацыі, лёгка даюцца артыкулы на маральна-этычныя тэмы, прыводзіцца ў парадак спадчына эпісталярнага жанру, як аб нечым рэальным, вядзецца гаворка пра ўласную кніжку і гэтак далей.

І хоць Крупняк не стаў членам Саюза пісьменнікаў, ён за сваё немалое жыццё надрукаваў з дзесятак вершаў, нешта накшталт дакументальнай аповесці пад назвай «Ідуць эшалоны», незлічоную колькасць нарысаў і замалёвак. Яны друкаваліся ў шматлікіх выданнях.

– Мабыць, і мне варта выдацца, – падумаў аднойчы Крупняк. – Чым я горшы за другіх...

Іван Рыгоравіч выцягнуў даволі ёмістую скрынку, куды амаль на працягу трыццаці год складваў выразкі са сваімі матэрыяламі, і пачаў перабіраць іх. Патыхнула спецыфічным пахам сатлелай паперы. Крупняк чытаў: «Барвовы дыск сонца выкаціўся з-за зубчатай сцяны лесу. Пускаючы густыя грывы дыму, па чыгуначных рэйках грымеў эшалон...»

– А здорава! Цяпер так не напісаў бы, – з задавальненнем падумаў Крупняк. – Абавязкова ўключу. Праўда, сёе-тое прыйдзецца паднавіць...

Перагарнуў яшчэ некалькі лісткоў. Вось рубрыка «нарыс». «Ружовы дыск сонца садзіўся за зубчатую сцяну лесу. Грукаючы на стыках, ішоў эшалон. Мабыць, ён вёз малако, якое надаіла...» – з замілаваннем чытаў Іван Рыгоравіч.

Наступны нарыс пачынаўся: «Зубчатая сцяна бору нараджала ружовае сонца. Чуліся гудкі эшалона і спеў салаўёў. Передавая свінарка Ганна Петрыкевіч ішла па роснай сцяжынцы на ферму, якая за пяць год стала для яе другім домам. Мабыць, гэты эшалон вязе тых свіней...»

Крупняк гартаў выразку за выразкай. І ў кожнай з іх «грымелі», «гудзелі», «стагналі», «парушалі цішыню ночы», «стукалі», «набліжаліся», «аддаляліся» эшалоны з бульбай, жытам, кукурузай, малаком, мясам, цукровымі буракамі, капустай, часнаком, лёнам, камбікармамі, цэглай і г. д.

Іван Рыгоравіч намагаўся прыпомніць тых людзей, пра якіх калісь пісаў, ды ніводнага жывога твару не ўсплывала ў памяці. Прыгадвалася, колькі ганарару плацілі за той ці іншы матэрыял, хто паступаў па-боску, хто проста здзекаваўся...

– Э-э-э, – расчулена падумаў Крупняк, – у той час мяне не без зайздрасці, вядома, называлі разбойнікам пяра...

Іван Рыгоравіч быў ліхім майстрам нарыса. У яго свая творчая лабараторыя, свой метад. Дастаткова было па тэлефоне даведацца пра прозвішча перадавіка, яго вытворчыя паказчыкі, узрост, вёску, членаў сям'і, пра некалькіх калег па рабоце – і праз гадзіну-другую падвальчык на радкоў дзвесце-трыста клаўся на стол рэдактара. Болдзінская восень не пакідала Крупняка на працягу амаль пятнаццаці год. Пісалася многа і надзвычай лёгка. Словам, столькі, што не хапала шасці актыўных і дзесяці пасіўных псеўданімаў.

З гадоў сарака пяці пачалася змрочная паласа. Яна не пакідае Крупняка і зараз. Яго нарысы бязлітасна бракуюцца, у лепшым выпадку робяць з іх 10–15-радковыя нататкі. Праўда, ні ў аднаго рэдактара і па сённяшні дзень не падымаецца рука для замаху на «эшалоны». І яны працягваюць «гудзець», «шумець» на ўсе лады ў крупняковых нататках...

...У птушыным тлуме займалася бадзёрая юная раніца. Іван Рыгоравіч дачытаў сваю інфармацыйную заметку ва ўчарашняй газеце. «Спаганілі, – з горыччу падумаў ён, – такі быў нарыс!» ...А над суседнім домам нараджаўся ружовы дыск сонца. Дзесьці за два кварталы трубілі гудкі, з прарэзлівым лязгатам грымелі паражнякі...

*«Вынаходнік», Мн., 1974 г.*







Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## АНЕКДОТ

Каментатар:

– І толькі на 30-й хвіліне матча адбылося тое, чаго з нецярплівасцю чакалі тысячы балельшчыкаў – на стадыён прывезлі піва.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Анекдот

Макараў спрабуе абысці Свэнсана, але Свэнсан Макараву не па зубах. А вось Макараў Свэнсану па зубах, па шыі і клюшкай у лоб.





Малюнак Алега ПАПОВА.





Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



# Малюе Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ



















Самым заможным і ўдалым гаспадаром у нашых мясцінах быў Пётр Пятровіч. Па-вясковаму – Пятрук ці, як яго за вочы звалі, Пэ-Пэ.

Маці Петрука, ціхая вясковая жанчына, вельмі ганарылася сынам. Яна рана аўдавела і хапіла шмат ліха. Многа і цяжка працавала, каб у сына былі адзенне і абутак, падручнікі, сшыткі... Затое потым радасна назірала, як ён рупліва і весела дапамагае гаспадарыць і як старанна вучыцца, седзячы над кнігамі нават у час канікул, калі яго сябры бегаюць на танцы ці вудзяць рыбу.

Акрамя таго, меў Пятрук адзін талент – мог літаральна з першага погляду адрозніць сумленнага чалавека ад прайдзісвета. Асабліва калі той пачынаў іграць «спектакль» па знакамітым цяпер сцэнарыі «танна, але хутка». Пасля слоў: «Заўтра ўжо не будзе» Пэ-Пэ тут жа абрываў размову словамі: «Вось заўтра і пагаворым». Бо добра ведаў: дарма ці нават танна нічога добрага не бывае.

Маці часцяком хвалілася перад суседзямі: «Пеця сам сумленны, нікога не пакрыўдзіць, але і яго вакол пальца не абвядзеш. Стрэлянага вераб'я на мякіне не ашукаеш. Пятрук, калі чуў тыя матчыны словы, заўсёды ўсміхаўся. Маці нават не здагадвалася, што пра вераб'я казала чыстую праўду. Быў у яго свой талісман, свая «мякіна», на якой у свой час ашукалі маладога і нявопытнага «вераб'я» – Пецю.

Здарылася тое восенню, пасля заканчэння тэхнікума. Цэлае лета працаваў Пеця ў Сібіры на будаўніцтве хімкамбіната. Паехалі туды сваёй брыгадай, добра папрацавалі. Але ж і зарабілі добра. Ён, выпускнік політэхнікума, ужо меў працу. Маладому спецыялісту прапанавалі стаць намеснікам галоўнага механіка ў родным саўгасе. Але ўдалося дамовіцца з кіраўніцтвам прыняць пасаду пазней, пасля паездкі ў Сібір. Бо такога вялікага, а па вясковых мерках нават шалёнага заробку, у саўгасе не было. А трэба ж апрануцца як след, ды і маці купіць тое-сёе, не кажучы ўжо пра гаспадарчыя выдаткі.

...І вось цяпер Пеця хадзіў па Мінску, які за час вучобы паспеў не толькі вывучыць, але і палюбіць, і траціў грошы. Купіўшы ўсё, што задумаў, ён адвёз пакункі на чыгуначны вакзал, здаў у камеру захоўвання і рушыў туды, дзе збіраўся набыць тое, што даўно хацеў: сапраўдныя амерыканскія джынсы – страшэнна дарагія, але надзвычай у той час модныя. Пеця ведаў, дзе збіраюцца кампаніі так званых фарцоўшчыкаў, што гандлююць імі. Пра гэта распавёў сусед па студэнцкім інтэрнаце і нават пазнаёміў з адной такой кампаніяй. Тады, у час вучобы, Пеця не меў сродкаў на такую дарагую рэч, а вось цяпер мог сабе такое дазволіць.

На бульвары каля ГУМа Пеця спытаў у тутэйшых хлопцаў пра сваіх знаёмых і пачуў у адказ, што сёння іх яшчэ ніхто не бачыў. Але і хлопцы тыя не проста так на лаўцы грэліся. І пасля непрацяглай гутаркі прапанавалі сваю дапамогу, паабяцаўшы тавар вышэйшага гатунку. Праз некалькі хвілін у бліжэйшым пад'ездзе і ў вялікай сакрэтнасці тавар быў паказаны «тварам». «Бізнесмены» хутка ўпэўніліся, што хлопец хоць і вясковы, але сапраўды вучыўся ў Мінску і тое-сёе ведае. А ведаў Пеця, чалавек грунтоўны, усё, што трэба: і які павінен быць матэрыял, так званы катон, і замок-маланка, і што на ім павінна быць напісана. Пасля таго, як Пеця з выглядам знаўцы адхіліў некалькі варыянтаў, абазваўшы іх «дзерабасам» і «чухасамі», прынеслі сапраўдныя джынсы фірмы «Lee», якія ён і набыў за сто дзесяць рублёў.

І вось тут Пецю, як яму тады падалося, пашанцавала. Ён даўно заўважыў на руцэ аднаго з хлопцаў гадзіннік дзівоснай прыгажосці: некалькі рознакаляровых цыферблатаў і стрэлак і іскрыстае шкло. Спытаўся, адкуль такая рэч. Яму адказалі, што гэта вытворчасць Швейцарыі, новая тэхналогія: працуе на вадкім крышталі. А шкло – дык зусім цуд. Яго немагчыма падрапаць. Калі ж гэта ўсё ж здарaецца, то драпіна праз некаторы час сама знікае. Хлопец нават пад смех сяброў зняў гадзіннік з рукі і, нацягнуўшы бранзалет на чаравік шклом уніз, некалькі разоў шкрабануў ім па бетоне. Потым абцёр аб кашулю і паказаў Пецю чысценькае, без аніякіх драпін шкло.

– Колькі ж ён каштуе? – здзівіўся ўражаны юнак.

– Усе дзвесце сорак рублёў.

І вось тут да іх падляцеў яшчэ адзін «дзеяч» і, бліскаючы вачыма, выгукнуў:

– Рыхтуйце грошы, ёсць партыя новых «пластоў»! – маючы на ўвазе музычныя пласцінкі. – Тавар найдэфіцытнейшы. Разыдзецца ўмомант.

Шумна параіліся. І высветлілася, што грошай не хапае. Усяго каля ста рублёў, каб узяць усе пласцінкі і атрымаць проста неверагодны навар. А браць трэба ўсю партыю, бо гандляр з Польшчы і ў яго ўжо ад'язджае аўтобус.

Вось тут хлопец і прапанаваў Пецю:

– Бяры гадзіннік. За паўцаны.

Спакуса страшэнная. І грошы ў Пеці яшчэ былі.

Ён нават уявіў сябе ў новых джынсах і з такім гадзіннікам... Але яшчэ вагаўся.

*Працяг на стар. 16.*

*Працяг. Пачатак на стар. 15.*



У гэты час падбег яшчэ адзін «гандляр» і злосна засіпеў:

– Ну, што цягнеце валынку, паляк ад'язджае!

Гаспадар гадзінніка рашуча кінуў:

– Восемдзесят!

І Пеця не вытрымаў...

Дадому не ехаў, а ляцеў. Хацелася нават выскачыць і падштурхнуць электрычку, якая, здавалася, ледзь сунулася...

Сустрэла маці. Радавалася абновам: сынавым і сваім, бо Пеця шмат чаго прывёз і для яе. Праўда, не рызыкнуў распавесці аб тым, колькі каштуюць тыя сінія штаны і прыгожы гадзіннік. Маці не зразумее. І амаль цэлы тыдзень хадзіў шчаслівы...

Потым гадзіннік спыніўся. Мясцовы майстар растлумачыў, што гэта звычайная «штампоўка» і за мяжой такія вырабы прадаюцца літаральна па долару за вядро.

– Дзе былі твае вочы, хлопец? – сказаў ён. – Бачыш назву гадзінніка – «Ruhla». Гэта слова табе нічога не нагадвае?

Не хацелася, але давялося паверыць. Дапамаглі драпіны на шкле, якія нікуды не знікалі. Цяпер Пеця зразумеў, як быў разыграны спектакль, дзе адзіным гледачом быў ён. Як часта і дэманстратыўна паглядваў на гадзіннік той хлопец і як яго засланілі, калі той «шкрабянуў» шклом па бетоне. Ён адзін, Пеця, і заплаціў за тую пастаноўку. Яго, як тады казалі, «кінулі» або «вылечылі».

Пеця вельмі раззлаваўся. Можна было б паехаць і паспрабаваць знайсці тых «артыстаў», але пашкадаваў часу і нерваў. Ды, шчыра кажучы, хлопец раззлаваўся больш не на іх, а на сябе і рашыў, што навука варта тых грошай. І калі ўжо праглынуў тое горкае «лякарства», то мусіш «вылечыцца». У тую самую хвіліну ён паставіў перад сабой мэту: паступіць у інстытут і вучыцца далей па-сапраўднаму. Потым надзеў на руку стары гадзіннік. А маці сказаў, што шкадуе насіць на працу дарагую рэч.

...Прайшоў час. Жыццё Пятра Пятровіча склалася як мае быць. Ён скончыў сельгасакадэмію і нават абараніў дэсертацыю. Працаваў на розных адказных пасадах. А цяпер – сам сабе гаспадар. Мае сваё прадпрыемства і нават некалькі ўласных крам у горадзе, дзе кожны можа набыць якасныя сельскагаспадарчыя прадукты мясцовай вытворчасці. І дома ўсё як трэба – сям'я, дзеці, а цяпер і ўнукі. І ніколі Пэ-Пэ не кідаўся ні ў якія гандлярскія авантуры. А калі патрэбна было прыняць важнае рашэнне, то ехаў у сваю гарадскую кантору ці, як цяпер казалі, офіс. Там у сейфе ляжаў стары, ужо трохі заржавелы з падрапаным шклом гадзіннік маркі «Ruhla» – яго талісман, тая самая горкая пілюля, якая раз і назаўсёды вылечыла маладога і даверлівага юнака ад неабдуманных рашэнняў.



Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.




Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.




## ПРАСВЯТЛІЎ



– Рашыў я, бацька, ажаніцца,
Ды баюся памыліцца.
Чарнявая – прыгожая,
Бялявая – лісливая.
З якой жа з іх шчаслівую
Сям'ю сваю наладзіць,
Пражыць жыццё,
Ды каб яшчэ «знаццё»,
Якая з іх не здрадзіць?
– Чарнявая? Лісливая? –
Скрывіўся бацькі рот. –
Не здрадзіць толькі сівая
Пад дзевяноста год!

**Мікола КАРАЛЁЎ,**
*г. Гродна.*

## СЕРЫЯЛЫ



А дзевятнаццатай гадзіне
Пачнецца новы серыял,
І не згаджаюцца жанчыны
Змяніць той звычны рытуал
На час прыгатавання ежы,
Мыцця бялізны і адзежы –
Жыццё чужое разглядаюць
З усіх бакоў, і напаслед,
Сваёй прыдумкай папраўляюць
Той пераблытаны сюжэт:
«Няўжо Ліцысія не бачыць,
Што робяць за яе спіной
Матуля з братам? Божа ж мой,
Аж сэрца ў хваляванні скача!..»

У «мыльных операх» падзеі
Да немагчымасці раздзьмуты:
Гарбату п'юць дванаццаць серый,
У дыялогах скрозь – пакуты:
Альбо найлепшая сяброўка
Шукае выйсце з тупіка
І ў вочы маніць вельмі лоўка,
Каб звесці ў сеці мужыка.
Альбо галоўнага не кажуць,
Загадак павуцінне вяжуць...
І толькі «суцяшаюць» тым,
Што час найлепшы наш укралі,
Што тлумяць галаву усім
Насуперак самой маралі.



**Сяргей ПРЫЁМКА,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




– Слухай, суседка, а чаму ты свайго Пятра шахматыстам называеш? Я ж яго ніколі не бачыла за шахматнай дошкай, усё часцей за чаркай, ды з бутэлькай.

– Дык так яно і ёсць. Ён жа як шахне сто грамаў, дык толькі і чуеш ад яго мат за матам.

* * *

– Добры дзень! Кажуць, што ў вас можна прайсці ананімнае лячэнне ад алкагалізму. Сапраўды?

– Так. Назавіце сваё прозвішча, дату нараджэння, месца працы і жыхарства, пашпартныя звесткі... Карацей кажучы, запаўняйце анкету!..




* * *

– Вы ў «Суперлато» гуляеце?
– Не, толькі прайграю.

* * *

– Ну як, ці адбрахаўся ўчора ад жонкі? – пытаецца сябрук.

– Дзе там! Ці ж яе перабрэшаш?!

* * *

– Як тут у вас наконт тэт-а-тэт? – пытаецца прыезджы ў мясцовага жыхара.

– А што, у тэт-а-тэт вельмі трэба?

* * *

– Як называецца доўгі-доўгі серыял драматычнага зместу?
– Мыльная опера.
– А адным словам?
– Мыладрама.



**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

**КНІГАРНЯ «ВОЖЫКА»**



*Нарэшце чытач дачакаўся выхаду кнігі «Беларуская эпіграма» (Мінск, Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», 2013), складальнікам якой выступіў пісьменнік Казімір Камейша. Ва ўступным слове ён падзяліўся некаторымі творчымі сакрэтамі адносна гэтага самага лаканічнага і самага распаўсюджанага сягоння жанру – эпіграмы, расказаў пра яе ўзнікненне і далейшае развіццё.*

*«У літаратурных колах, ці, як яшчэ часам кажуць, «у свеце парнаскім», найпершай спадручнай зброяй творцы была эпіграма: кароткая, вострая і дужа трапнага досціпу маларадкоўка, – зазначае К. Камейша. – І кожная з іх, нават самая лаканічная, двухрадковая, мела сваю перадгісторыю, не ведаючы якой, цяжка адчуць трапнасць таго самага «стрэлу»...*




*Вось я і вырашыў скласці зборнік эпіграм і кожнай з іх даць каментарнае суправаджэнне. Выходзіў найперш з доследаў сведкаў, сяброў, знаёмых ды ўласнай памяці. Над кнігай гэтай я працаваў і збіраў тое, што склала яе змест, многія гады».*

*Зборнік пачынаецца з эпіграмных «стрэлаў» класікаў нашай літаратуры: Купалы, Коласа, Багдановіча. А завяршаюць яго эпіграмы, што нарадзіліся з-пад пяра зусім нядаўна, у рэаліях нашага жыцця. Асобнымі раздзеламі пададзены эпіграмы невядомых аўтараў, аўтаэпіграмы і гумарыстычныя вершы пад назвою «Іншае, смеху вартае».*

*Што ж, перагорнем з усмешкаю некаторыя старонкі гэтай кнігі.*

## Анатоль ВЯЛЮГІН

*Мікола Татур нейкі час працаваў дырэктарам Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў. Яго рабочы кабінет у Доме літаратараў быў абжыты, як родны дом. Тут ён часта і начаваў, на рабочым стале ляжала паходная электрабрытва, дымілася кава... Ну і, вядома, адзін за адным ішлі сябры і калегі. Але аднойчы дырэктар знік. Не было яго і першую, і другую ноч. Сябры захваляваліся, бо не было Міколы Ігнатавіча і дома.*

*А здарылася вось што. Завітала ў Мінск яго даўняя знаёмая, берасцейская прыгажуня, пышны бюст якой варты ўвагі лепшых скульптараў. Як сказаў бы вядомы паэт Сцяпан Гаўрусёў – «звонкагрудая». У гатэлі «Мінск» быў зняты лепшы нумар. Там і кінуў свой «якар» Мікола Татур...*

Даўно пагаслы кратэр,
Штурмуючы ў пасцелі,
Загінуў Коля Татур
На брэсцкай цыцадэлі.



## Казімір КАМЕЙША

*Між сяброў-паэтаў Леанід Дранько-Майсюк праславіўся сваім вядомым лірычным цыклам «Вершы для «А».*

Нястомны і няўрымсны сам,
Свая між класікаў ёсць ніша.
Для «А» ён вершы напісаў,
Дык, можа, і для «Б» напіша.




## Павел САКОВІЧ

*Усё, што тычыцца самой Галіны Тычкі, гарантуе аўтар, цалкам адпавядае праўдзе. Бо ведае ён сваю «гераіню» па сумеснай працы ў часопісе «Полымя».*

У мяне ніколі з Тычкай
Не было, дальбог, сутычкі.
А прызнацца, мо й дарэмна –
Сутыкнуцца з ёй прыемна,
Бо ў яе, на што ні глянь,
Кожная натхняе грань!



## Яўген МІКЛАШЭЎСКІ

*Працуючы літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў, Яўген Міклашэўскі паназіраў, як друкуюцца слабыя творы аўтараў у перыядычных выданнях...*

### Высновa

Якія б ні былі слабыя творы,
Друкуюць тых, хто лаўрэат ці хворы,
Тых, у каго вяселле ці хаўтуры,
І гэта, як сцвярджае крытык Хмуры,
Найзалацейшы Фонд макулатуры.




## Віктар ШНІП

*Усе мы былі пачаткоўцамі, баяліся адчыніць літаратурныя дзверы. Прозвішчы, магчыма, калісьці былі і больш унушальныя. Ды сёння іх збег і падабенства можа і напалохаць.*

### Пачатковец на літраздарожжы

Як пайду направа –
Траплю я да Свіркі ці то Цвіркі.
Як пайду налева –
Траплю я да Цвіркі ці то Свіркі.
Я пайшоў бы прама,
Ды і там таксама
Ці то Шніп, ці то Шруб,
Ці то Шыш, ці то Сыс –
Не прыпомню, каб ён скіс!























Малюнкі Пятра КОЗІЧА.




## Уладзімір МАЗГО

### ПЕРАБЛЫТАЎ

Летам
Вёў на поўдні рэй –
Асядлаў каня
Андрэй.

Думаў – зебру.
Кажа тата:
– Тыгр таксама
Паласаты!..



### ГРАНІТ НАВУКІ

Кажа дзед-сусед:
– Унукі
Ўжо грызуць
Граніт навукі.

Галасок
Пачуўся Любы:
– А яны
Не зломяць зубы?..



### СМЯШЫНКА

Разважаў
На ўроку Ясь:
– Калі муж княгіні –
Князь,
Вывад просіцца
Адзін,
Што ў графіні муж –
Графін.




### НА РЫНКУ

Ясь хацеў
Купіць прысмакі.
Раптам бачыць
Надпіс «Ка-кі».

Ясь скрывіўся.
А дарма:
Какі –
Смачная хурма.



## Уладзімір РУНЦЭВІЧ

### Мініяцюры

Дождждык, дождждык – даўгавяз
У зямлю сырую ўграз.
Вылезці ніяк не можа.
Бедаку хто дапаможа?

* * *

Кавалёк, кавалёк...
Узяў у рукі малаток
Ды куе падковачкі
Ён для шэрай совачкі.

* * *

Апранайся, распранайся,
Гузікам трапляй у лад...
Чаравік і той зазнаўся –
Я ж іду ў дзіцячы сад!

* * *

– Дабрыня каштуе колькі? –
Запытаўся я у Колькі.
Хлопчык тут як узлуецца:
– Дык яна ж не прадаецца!

* * *

Лесавік жартуе з намі,
Цешыць нас баравікамі.
Жартачкі харошыя –
Поўныя ўжо кошыкі!

*г. Мар'іна Горка.*

### Лабірынт «Аўтамабіль»




Склаў Андрэй СКРЫННІК.

**Адшукай у лабірынце звілісты шлях ад старту да фінішу.**










Малюнкі Паўла ГАРАДЦОВА.

**Скарыстайся дапаможнымі квадратамі і дамалюй вагончык.**



Склаў Андрэй СКРЫННІК.




Антон (шэсць з паловай гадоў) пытаецца:

– Мама, я забыўся, каровы, авечкі, куры, гусі – як адным словам называюцца? Скаціна або сволачы?





У садзе выхавальнік кажа:

– Што рабіць? У нас два Колі.

Мой сын:

– Завіце мяне Мікалай першы...



Дачка:

– Тата, а калі скончыцца рамонт, мне колькі гадоў будзе?



Мая малодшая сястра неяк вырашыла сама патэлефанаваць бацьку на працу:

– Алё! Гэта татава праца? Паклічце тату!



Гулялі з сынам (два гады) у парку і ўбачылі блізнят. Малы доўга і здзіўлена разглядаў іх, а потым сказаў:

– А дзе мой такі?!



Кірыла (два гады адзін месяц) на вуліцы ўбачыў мужчыну, які выходзіў з пад'езда, і без лішніх прывітанняў звяртаецца:

– Гуляць пайшоў?

Мужчына збянтэжана:

– Ага.

– Шапку надзеў?

– Так.

– І рукавіцы надзень. Холадна. Вельмі холадна.





Купіла я сабе сярэбраны гарнітур (бранзалеты і пярсцёнак) на старажытнаегіпецкую тэму. Дачка (чатыры гады) разглядае ўважліва, затым пытаецца:

– Мама, гэта Старажытны Егіпет?

– Так, дачушка.

Муж пацвельваецца:

– А адкуль ты ведаеш, што гэта Старажытны Егіпет? Раптам гэта Старажытны Кітай?

– Тата, гэта ў цябе гадзіннік – старажытны Кітай, а ў мамы – Старажытны Егіпет.

# Навіны з МУС: матай на вус...

## Эх, «мастакі»!..

***Мінск.*** Жылі-былі два сябры. З самага дзяцінства яны любілі маляваць на ўсім, што траплялася на шляху іх алоўкаў і фламастараў – на дзвярах, шпалерах, мэблі... Нават калі падраслі, не кінулі сваё хобі. Толькі перанеслі «творчасць» на вуліцу. Дзе іх і затрымалі міліцыянеры, калі 16 і 17-цігадовыя «мастакі» размалёўвалі кіёск у падземным пешаходным пераходзе на перасячэнні вуліцы М. Багдановіча і праспекта Машэрава.



На першы раз штрафаваць правапарушальнікаў не сталі, абышліся звычайнай працатэрапіяй – даручылі адмыць кіёск ад свайго «мастацтва». Можа, пасля гэтага яны зразумеюць, дзе можна маляваць, а дзе – нельга...

## «Жніво»

***Мінская вобласць.*** Кожны год, калі на палях нашай краіны ідзе жніво, міліцыянеры таксама «збіраюць ураджай»... канопляў. Вось толькі ўбачыць колькасць «намалотаў» можна хіба што на паперы, бо ўсе наркатычныя расліны знішчаюцца.

Вось і нядаўна сталічныя міліцыянеры сумесна са слуцкімі калегамі па спецыяльнай праграме «МАК» выявілі і ліквідавалі цэлы гектар канопляў агульнай вагой каля паўтара тон.

Збор такога «ўраджаю» працягваецца...

## Футбол за кратамі

***Маладзечна.*** Што патрэбна для таго, каб пачаць займацца спортам? Існуе шмат прычын. Але, акрамя іх, трэба яшчэ і спартыўная форма, абутак, па якія даводзіцца ісці ў магазін. Нейкі ж невядомы «прыхільнік спорту» не захацеў траціцца і ўкраў з машыны мясцовай прадпрымальніцы... 164 пары спартыўнага абутку на агульную суму амаль 17 мільёнаў рублёў.

Магчыма, гэта быў трэнер нейкай злачыннай футбольнай каманды, якой бракавала грошай і таму бегаць за мячом не было ў чым? Вось толькі калі гэтага «трэнера» знойдуць, яму давядзецца набіраць новую каманду. Ужо за кратамі.



## Пытанні эвалюцыі

***Мінск.*** Чаму людзі не лётаюць, як птушкі? Мабыць, так думалі узломшчыкі, выскокваючы з трэцяга паверха дома па вуліцы Панамарэнкі, калі іх заспеў «на гарачым» гаспадар кватэры. А паколькі эвалюцыя не надзяліла чалавека крыламі, адзін са злодзеяў траўміраваў нагу. Праўда, «кампаньёнам» удалося ўцячы... Міліцыянеры затрымалі іх праз два дні каля ўвахода ў паліклініку, куды тыя звярнуліся па дапамогу.

Зараз вядзецца следства. Хаўруснікі будуць мець дастаткова часу, каб разабрацца ва ўсіх пытаннях эвалюцыі чалавека.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## РОДНАСНЫЯ ДУШЫ

Рыбак здалёк убачыць рыбака
Таму, што родныя душы.
Заўсёды дапаможа шчупака
Цягнуць з ракі яму на сушу.
І галавой кіўне ён згодна ў такт –
Пацвердзіць, што пудоў на пяць шчупак!
Братэрства ў рыбакоў святое.
Хлусіць зусім ім не з рукі.
Ну, прыплятуць дзе што якое –
Яны ж на тое й рыбакі!

*г. Барысаў.*




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# РАСТЛУМАЧЫЎ

*Жыццёвае*



Дзед гуляе з унукам.

— Дзядуля, мне бабулька расказвала, што раней сто рублеў былі вялікія грошы. Не тое, што цяпер.

— Баба не хлусіць, — уздыхае дзед.

— А я нават не ўяўляю, што гэта такое — сто рублёў? — паціскае плячыма малы.

— Ну, на сто рублёў раней можна было купіць амаль трыццаць... пачакай... так, так... Правільна: на сто рублёў раней можна было купіць трыццаць бутэлек гарэлкі! Ці... пачакай... пачакай... двесце бляшанак кількі ў тамаце! Зразумеў?

— Зразумеў, дзядуля. А чаму ты так дзіўна лічыш — гарэлка іількі? — дзівіцца ўнук. — Ты што, нічога іншага не купляў?..

*г. Гомель.*






Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.



Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

**Павел САКОВІЧ**

## Пра баскаў і баксы




Іспанцы грошай просяць многа:
На крызіс дайце, калі ласка.
А я не даў бы ім нічога —
У іх жа ёсць краіна баксаў!